**ВОСЬ ГЭТА ПАДАРУНАК!**
*Каму не слабо рабіць працаўніцам падарункі?* 2

**ЩУКА НЕРЕСТУЕТ,** *а браконьер лютует* 3



**СТАНЦЕВАТЬ НА ГОЛОВЕ?**
*Брейкеры из Берёзы научат вас этому за пять занятий* 5



**ГАЗЕТА ДЛЯ ВАС**

ІВАЦЭВІЧЫ-БАРАНАВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ-ДРАГІЧЫН-КОБРЫН

выдаецца са студзеня 1997 года 22 — 28 сакавіка 2002 г. № 12 (327)

# НЯМА CINEMA...

## Зачынены ўсе сельскія кінаўстаноўкі Івацэвіцкага раёна




Калаж Аляксандра ГОРБАЧА.

Кінасеансы на вёсцы паступова адыходзяць у нябыт...

**На пачатку бягучага месяца Івацэвіцкі райвыканкам прыняў пастанову, паводле якой усе вясковыя кінаўстаноўкі раёна закрываюцца. Такім чынам, кінасеансы на вёсцы, як частка побыту, непрыкметна адыходзяць у гісторыю.**

Што паслужыла прычынай для такога кроку? Ні для каго не сакрэт, што тыя кінапаказы апошнія гады не мелі ніякай папулярнасці, на кіно ў вёсцы хадзілі літаральна адзінкі. Прычын некалькі: гэта і паступовае старэнне і запусценне вёскі, і рэзкае ўзмацненне пазіцый тэлебачання. "Лебядзінае возера" сёння ўжо не транслююць гадзінамі падрад; цікавых і змястоўных перадач і фільмаў так многа, што сярэдні абывацель ламае галаву над тым, што выбраць. Пры гэтым не трэба злазіць з дывана, апранацца, ісці ў цемру па змрочным вуліцам( усім вядома тое, як асвятляюцца вясковыя вуліцы). Хоць, канешне, ёсць свая рамантыка ў гэтым "мурлыкаючым, пяшчотным трэску мігаючага cinema", як казаў калісьці Аляксандр Блок, але ж, з другога боку, у кінасетках гадамі не мяняецца рэпертуар, усё тыя ж транслiруюцца да дзірак зацёртыя ленты, а на тэлеэкране тым часам усё самае сучаснае, новае...

Вось як каменцiруе сітуацыю **Зоя Пятроўна БЕНЮШ, в. а. дырэктара кінавідэасеткі Івацэвіцкага раёна:**

— Трыццаць кінаўстановак раёна афіцыйна спынілі сваё існаванне. Функцыяніраваць будуць толькі кінатэатры ў Івацэвічах, Косаве, Целяханах. Такая сённяшняя рэальнасць, лічу, што гэта непазбежны працэс. Судзіце самі: многія з гэтых кінаўстановак давалі месячную выручку ў 6-8 тысяч рублёў. Ступень акупаемасці, як бачыце, мінімальны, а ўлічваючы тое, што дапамога дзяржавы кінаўстановам таксама мінімальная, то лёс іх прадказаць было няцяжка.

У нашых жа планах — набыццё відэаапаратуры (відэапраектар, музычны цэнтр), набыццё больш сучасных фільмаў, сістэматычны выезд у тыя ці іншыя вёскі, кінапаказ. Такім нестандартным падыходам, лічу, можна стварыць умовы для таго, каб ніхто не мог сказаць, што на вёсцы канчаткова паставілі крыж.

Падрыхтаваў **Аляксандр ГОРБАЧ.**
г. Івацэвічы.

# Дыхаем шкловатай

**Хачу расказаць аб тым, што робіцца на вялікім рынку ў г. Бяроза, што знаходзіцца па вуліцы Свярдлова.**

Як вядома, у суботу і нядзелю сюды з'язджаюцца прадпрымальнікі з многіх месцаў. Бываюць з Івацэвічаў, Пінску, Баранавічаў і іншых гарадоў. Канешне, ім трэба месца. І вось частку тэрыторыі рынку засыпалі дробнай шкловатай з пяском. Ад ветру гэта дробязь узнімаецца ў паветра і лятае. Не ведаю, як у гэтым атрутным вытрымліваюць прадпрымальнікі, а вось пакупнікам — дык дужа непрыемна. Усе ходзяць, нібы ў пыльнай буры, аж цяжка дыхаць. Мала таго, што псуецца тавар, але ж гэта шкодна для здароўя. На рынку бываюць не толькі дарослыя, але і дзеці. Я прайшлася ўсяго адну гадзіну, а калі прыйшла дадому, дык ледзь змыла гэтыя часцінкі. Хачацца спытаццa ў кіраўнікоў горада і рынку: "Хто гэта даўмеўся засыпаць месца вялікага збору людзей атрутай? Куды глядзіць санстанцыя, ахова асяроддзя?"

Кантралёры рынку казалі, што зверху гэтую шкловату закрыюць асфальтам. Але ці стане яна ад гэтага менш шкоднай?

**Таццяна РУПЕКА.**
г. Бяроза.

# Крадут газовые баллоны

**По району идёт нарастающая волна краж газовых баллонов в частном секторе.**

Только за первую неделю марта было зафиксировано три подобных случая. Как сообщила **мастер внутридомовой службы Пружанского райгаза Мария Геннадьевна ДОБРЕНКО**, в основном, жертвами воров становятся одинокие женщины и пенсионеры.

Единственный выход — установка газового баллона внутри дома. Работниками райгаза в этом случае составляется техническая документация и смета. Вот только стоимость таких работ довольно ощутима для кошелька пенсионера.

**Антон ФЕДОРОВИЧ.**
г. Пружаны.

# Стартаваў сезон продажу парасят

**Новыя правілы гандлю ўстаноўлены на так званым парасячым рынку г. Івацэвічы (вул. Клютко).**

Калі раней плата бралася з наведвальнікаў і прадаўцоў у памеры 1000 рублёў незалежна ад таго, якая колькасць парасят прадаецца, то зараз бярэцца толькі з прадаўцоў — па 500 рублёў за кожнае прадаваемае парася.

Як паведаміў "Газеце для вас" **дырэктар філіяла "Рынак" Івацэвіцкага раённага спажывецкага таварыства Андрэй КАЛАНЧУК**, прычына зменаў у тым, што кожны прадавец мае розную колькасць жывога тавару, таму патрэбен больш гібкі падыход у цэнаўтварэнні. Кошт парачкі парасят у першы дзень паслязімовага гандлю складаў 60-80 тысячаў рублёў.

**Аляксандр МІХАЛЕНКА.**
г. Івацэвічы.



**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

Заканчваецца падпіска на перыядычныя выданні на другі квартал 2002 года.
Падпісная цана на
**"ГАЗЕТУ ДЛЯ ВАС"**
складае:
для індывідуальных падпісчыкаў (індэкс 63834) на адзін месяц — 1104 рублі,на квартал — 3312 рублёў.
для ведамаснай падпіскі (індэкс 64145) на адзін месяц — 2085 рублёў, на квартал — 6255 рублёў.
ільготная падпіска (індэкс 63671, для інвалідаў, пенсіянераў і навучэнцаў сярэдніх навучальных устаноў) на адзін месяц — 1001 рубель, на квартал — 3003 рублі.
Газет для вас выдаецца шмат. "ГАЗЕТА ДЛЯ ВАС" толькі адна. Не забудзьцеся падпісацца на яе.

ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Чудовищное обнищание белорусского народа

**По данным Министерства статистики и анализа, в IV квартале 2001 г. среднестатистическая белорусская семья ежемесячно расходовала почти 196 тысяч рублей, или около $126.**

Получается, что по всем статьям расходов население Беларуси формирует годовой реальный спрос на $5,6 млрд. ВВП страны составляет $12 миллиардов. С африканской точки зрения это, конечно, не бедность, но далеко не тот уровень внутреннего спроса, который мог бы гарантировать устойчивый экономический рост без привлечения иностранных инвестиций и либерализации бизнеса, отмечает Белорусская газета.

По-прежнему больше половины денег (53,3%) белорусские семьи тратят на продукты питания. В семьях пенсионеров 68,1% потребительских расходов идет на продукты питания. Пенсионеры практически не ходят в кафе, тем более в рестораны, не имеют денег на табак, но на алкоголь тратят больше, чем на транспорт, предметы личной гигиены и практически столько же, сколько на здравоохранение.

## Цены с начала года выросли

**На 10,8 процента выросли с начала года потребительские цены в Беларуси.**

По информации Министерства статистики и анализа, в январе цены увеличились на 6,1 процента, в феврале — на 3,6, за первую неделю марта — на 0,8. За аналогичный период прошлого года цены повысились на 10,6 процента, сообщает БелаПАН.

Для сравнения: в России цены увеличились в январе на 3,1 процента, в феврале - на 1,2 процента, в Казахстане - соответственно на 0,7 и 0,3, в Армении - увеличились на 2,2 и снизились на 0,7. В 2002 году правительство и Национальный банк Беларуси прогнозируют повышение цен на 20-27 процентов.

## К посевной колхозы не готовы

**Готовность сельскохозяйственных предприятий Беларуси к весеннему севу оставляет желать лучшего. Об этом заявил 15 марта в интервью Белорусскому телевидению вице-премьер правительства Александр Попков.**

"К сожалению, сегодня мы не располагаем в достаточной степени минеральными удобрениями, не завершен ремонт сельскохозяйственной техники. Есть целый ряд колхозов и совхозов, которые не запаслись в достаточной степени горюче-смазочными материалами", — сообщил Попков. В этой связи, по словам вице-премьера, на которые ссылается БелаПАН, правительство "переходит в режим активной работы, ищет возможности буквально в течение двух недель снять все проблемы, которые мешают проведению весенне-полевых работ".

**"Хартия-97".**

## 28 сакавіка — адзіны дзень прафсаюзных дзеянняў

**У Мінгарвыканкам пададзена заяўка на правядзенне 28 сакавіка ў горадзе мітынгу пратэсту ў межах агульнанацыянальнай акцыі — адзінага дня прафсаюзных дзеянняў.**

Ініцыятарам і арганізатарам агульнанацыянальнай акцыі, якая пройдзе пад лозунгам "Не — росту цэн! За дастойнае жыццё і правы прафсаюзаў!", выступае Федэрацыя прафсаюзаў Беларускі (ФПБ).

У заяўцы ўказаны тры варыянты месца правядзення мітынгу: плошча Парыжскай Камуны, а таксама тэрыторыя перад будынкам ФПБ (на праспекце Машэрава) і каля стадыёна Мінскага трактарнага завода. У залежнасці ад таго, які варыянт зацвердзіць выканкам, будзе распрацаваны маршрут шэсця ўдзельнікаў мітынгу да гэтага месца ад буйных прадпрыемстваў горада. Мітынг пройдзе з 16 да 19 гадзін, заяўленая колькасць яго ўдзельнікаў — да 30 тысяч чалавек.

Па планах ФПБ, 28 сакавіка акцыі пратэсту ў розных формах павінны прайсці ў 58 гарадах краіны. Напрыклад, мітынгі, паводле слоў А. Лявіцкага, заяўлены акрамя Мінска, у Брэсце, Асіповічах, Наваполацку і Рагачове. У Магілеве плануецца правядзенне буйнога прафсаюзнага сходу; магчыма, аналагічны сход пройдзе і ў Гомелі. У іншых гарадах запланаваны сходы прафактыва, пікетаванні месцаў размяшчэння органаў улады і кіравання, раздача інфармацыйнай літаратуры і г. д.

Паводле слоў А. Лявіцкага, падрыхтоўка да агульнанацыянальнай акцыі вядзецца па-рознаму, у залежнасці ад пазіцыі і актыўнасці прафсаюзных структур у розных рэгіёнах, на прадпрыемствах і ў арганізацыях.

**Ірына ЛЯЎШЫНА.**

# ВОСЬ ГЭТА ПАДАРУНАК!

**ІВАЦЭВІЧЫ. Дырэктар ДЭУ-2(в.Яглевічы) Уладзімір Мулярчык усім жанчынам, якія знаходзяцца ў спісачным саставе арганізацыі, зрабіў цудоўны падарунак. Ён быў прымяркаваны да Дня жанчын, але яго "ўручэнне" адбылося 12 сакавіка, калі ў Мінск з канцэртам прыехалі Ала Пугачова і Максім Галкін.**

Як чытач ужо здагадаўся, кіраўніцтва ДЭУ-2 купіла сваім жанчынам (а іх — 27 чалавек) білеты на канцэрт і, акрамя гэтага, забяспечыла іх транспартам, зняўшы такім чынам праблему, як на гэтае мерапрыемства дабрацца.

Канцэрт адбыўся у Дварцы Спорту. Як паведамілі "Газеце для вас" удзячныя супрацоўніцы ДЭУ-2, уражанні ад выступлення расійскіх "зорак" проста цудоўныя. Канцэрт доўжыўся 2 гадзіны 15 хвілін, выступала ў асноўным Ала Барысаўна (гучалі як яе новыя, так і старыя песні). Максім Галкін таксама з'яўляўся на сцэне з пародыямі, гумарэскамі; выканаў некалькі песен сольна, некалькі з Пугачовай. Цана білетаў, дарэчы, складала ад 35 да 100 тысячаў рублёў.

**P. S.** А вам слабо, паважаны дырэктарскі корпус, рабіць любімым жанчынам такія шыкоўныя падарункі? Ці зможа хто-небудзь яшчэ лепш павіншаваць сваіх супрацоўніц, чым дырэктар ДЭУ-2? Ці будзем па-ранейшаму абыходзіцца "цёплымі" словамі?

**Аляксандр ГОРБАЧ.**

## Не льном единым

### ЖИВ ЛЬНОЗАВОД

**Около половины работников ОАО "Ивацевичский льнозавод" находятся в отпусках — плановых и за свой счёт. Основное сырьё закончилось, до следующего урожая ждать долго.**

**Рассказывает Владимир Семёнович Едало, и. о. директора ОАО "Ивацевичский льнозавод":**

— Работу продолжает столярный и деревообрабатывающий цех (последний вскоре будет переведён на работу в две смены). В две смены работает швейный цех. На те участки, где нужны будут рабочие, мы, разумеется, будем приглашать тех, кто в вынужденном простое. Вскоре ожидается приход льнотресты со Столина — и, надеемся, работа закипит.

Урожай предыдущих лет был выше, чем урожай того года прошлого. В этом причина того, что мы нынче раньше, чем обычно, стали "на прикол".

Кроме того, наше ОАО имеет около 455 гектаров пахотных земель. Это значит, что вскоре объём работ тоже возрастёт. Ведём работу с председателями колхозов; не исключено, что некоторые из них тоже пожелают прибегнуть к нашим услугам.

**Подготовил Александр ГОРБАЧ**

## Музей педагагічнай дзейнасці

**ДРАГІЧЫН.** Мясцовая гімназія. Тут стварылі музей педагагічнай дзейнасці. Мэта яго: захаваць імёны, дакументы, фотаздымкі, вопыт людзей, якія аддалі свае сэрцы дзецям.

Ужо афармлены два раздзелы: "Успамінаюць ветэраны педагагічнай справы" і "Галерэя памяці". Тут утрымліваюцца самыя розныя звесткі. У горадзе і раёне далёка не ўсе ведаюць, калі ў раёне ўзніклі першыя школы, каму прысвечаны самыя высокія званні і хто мае ўрадавыя ўзнагароды на ніве педагагічнай працы. Пра ўсё гэта можна давецца са стэнда "Гісторыя стварэння школ у раёне".

Гімназія ў Драгічыне існуе нядаўна. Але тут ужо накоплены багаты вопыт педагагічнай дзейнасці, летапіс, фотаслова, поспехі і ўзнагароды. Аб гэтым расказвае раздзел "Першае дзесяцігоддзе".

Акрамя гэтага, у музеі можна пазнаёміцца з дакументамі, узрост якіх 50—60 і болей гадоў: падручнікі, пісьмовыя прыналежнасці, дзеннікі, школьныя рэчы... Музей працуе і папаўняецца новымі дакументамі і экспанатамі.

**Галіна ВІКТАРОВІЧ.**

## Хоць малы, нібы акурак...

**БАРАНАВІЧЫ.** Сямігадовы вучань падрыхтоўчага класа Лясьнянскай сярэдняй школы хаваўся ад бацькоў (каб яны не даведаліся, што ён ужо смаліць цыгарэты) і пайшоў пакурыць у хлеў да суседзяў.

Неўзабаве ўспыхнуў моцны пажар, у выніку якога хлеў грамадзяніна П., адкуль хлапчаня ўспела выскачыць, згарэў з усей маёмасцю.

**Іван БУБЛІКАЎ.**

## Жаніхі — з усяго свету

**КОБРЫН.** Як паведамілі мне ў Кобрынскім гарадскім аддзеле ЗАГС, мясцовая статыстыка сведчыць аб сумных лічбах.

За мінулы 2001 год, было зарэгістравана 553 смерці, што на 58 смярцей больш года 2000.

Праўда, у горадзе нарадзілася 643 дзіцяці, але гэта на 21 дзіця менш, чым у 2000-ым.

У 2001 г. у горадзе жаніхі і нявесты стварылі 371 новую сям'ю, але і гэта на 24 менш, чым у 2000 годзе.

Адно прыемна, што пашырылася геаграфія месца пражывання жаніхоў, якія выбралі сабе ў жонкі кабрынчанак. Раней былі ўсё жаніхі з Украіны і з Расіі, а цяпер і з Германіі, і з Малдовы, і нават з В'етнама. Усяго такіх змешаных шлюбаў — 32.

**Ніна МАРЧУК.**

# РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

**Цэны на прадуктовых рынках нашага рэгіёну па стану на 20.03.2002 г. (у руб. за адзін кілаграм)**

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны | Драгічын | Кобрын |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Свініна | 3500—4800 | 3500—7000 | 3300—4500 | 3500—4500 | 3500—4000 | 3000—5000 |
| Сала салёнае | 4000—4500 | 3500—4000 | 3500—4000 | 3000—4000 | 3000—3500 | 3000—3500 |
| Алей (1 л) | 1700—2050 | 1500—1900 | 1700—1900 | 1700—2050 | 1700—2000 | 1700—2000 |
| Яйкі (1 дзяс.) | 1300 | 1200—1500 | 1200 | 1300 | 1300 | 1200—1400 |
| Малако (3 л) | 1000 | 800—1000 | 1000 | 1000 | 1000 | 1000 |
| Гранаты | 4000 | 3500—4000 | 3500—4000 | 3500—4000 | 3500—4000 | 3500—4000 |
| Масла сметанк. | 3000—3500 | 2500—3500 | 3500 | 3000 | 2500—3000 | 2500—3000 |
| Грушы | 2600 | 2600 | 2600 | 2600 | 2600 | 2600 |
| Цыбуля | 800 | 800 | 800 | 800 | 800 | 800 |
| Агуркі | 3000 | 3000 | 3000 | 3000 | 3000 | 3000 |
| Морква | 700—1000 | 700—1000 | 700—1000 | 700—1000 | 700—1000 | 700—1000 |
| Памідоры | 3500—4000 | 3500—4000 | 3500—4000 | 3500—4000 | 3500—4000 | 3500—4000 |
| Селядцы | 2200 | 1800—2000 | 2200 | 2000—2200 | 2000—2200 | 2600 |
| Ківі (1 шт) | 400 | 280—350 | 300—400 | 350—400 | 350—400 | 350—400 |
| Грэцкія арэхі | 2200 | 2000—2500 | 2000—2500 | 2500—2500 | 2500—2500 | 2000—2500 |
| Яблыкі | 350—800 | 400—1600 | 450—700 | 450—800 | 450—800 | 500—800 |
| Маянэз (1п.) | 320—550 | 300—520 | 300—520 | 300—550 | 300—520 | 300—550 |
| Вінаград | 5000 | 2500—5000 | 5000 | 2650—5500 | 2650—5800 | — |
| Мандарыны | 2400—2600 | 2400—2600 | 2400—2600 | 2400—2600 | 2400—2600 | 2400—2600 |
| Часнок | 2200 | 2200 | 2200 | 2200 | 2200 | 2200 |
| Лімоны | 1800—2200 | 2000—2200 | 2000—2200 | 2000—2200 | 2000—2200 | 2000—2200 |
| Апельсіны | 1800—2000 | 1600—2000 | 1700—1900 | 1700—1900 | 1800—2000 | 1800—2000 |
| Бананы | 1600—1800 | 1400—1600 | 1600—1800 | 1700—1800 | 1700—1800 | 1600—1700 |
| Хурма | 2500—4500 | 2100—4000 | 2500—4300 | 2100—4000 | 2100—4000 | 2000—4000 |
| Грэчка | 500—600 | 500—540 | 550—600 | 600 | 550 | 550 |
| Макар. вырабы | 600—700 | 500—650 | 650—750 | 500—650 | 500—670 | 550—630 |
| Рыс | 550—600 | 500—600 | 600—850 | 550—600 | 550—600 | 550—600 |
| Манныя крупы | 560 | 560 | 550 | 540 | 530 | 560 |
| Проса | 380 | 330 | 400 | 400 | 380—400 | 400 |
| Цукар | 730 | 730—750 | 750 | 740 | 700—730 | 700 |
| Мёд | 4500—5000 | 4000—4500 | 4000 | 4600 | 4500 | 4000—4500 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 1720 | 1800 | 1700 | 1750 | 1700 | 1780 | 1720 | 1800 | 1720 | 1800 | 1700 | 1750 |
| 1 еўра | 1460 | 1500 | 1450 | 1480 | 1460 | 1500 | 1460 | 1500 | 1460 | 1500 | 1460 | 1500 |
| 1 рубель Расіі | 53 | 55 | 53 | 55 | 53 | 55 | 53 | 55 | 53 | 55 | 53 | 55 |

# КАЛІ СЭРЦА ГОРНЕЦЦА ДА СЭРЦА

**Гэтая школа незвычайная. Гэта Целяханская школа-інтэрнат. I дзеці — вучні тут незвычайныя. Большасць іх — гэта сіроты пры жывых бацьках. Як працаваць з такімі дзяцьмі, як знайсці сцяжынку да іх сэрцаў? Не ўсе могуць, не ва ўсіх гэта атрымліваецца. Дзеці, як ніхто, адкрываюць свае чалавечыя душы. I адкрываюць перш за ўсё тым, у каго са старэйшых горнецца душа да дзіцячага сэрца.**

Калі гаварыць пра Зінаіду Іванаўну Акуліч, то яна, можна сказаць, настаўніца ад Бога. Можа, таму, што рана засталася без бацькоў, выхоўвалася ў дзіцячым доме, вучылася ў пединстытуце на факультэце пачатковых класаў. Пасля заканчэння навучальнай установы прыехала ў Целяханы, у школу-інтэрнат, куды яе накіравалі на працу. Гэта было летам 1963 года. З таго дня хутка міне 40 гадоў, і Зінаіда Іванаўна паранейшаму сярод дзяцей.

Зараз Зінаіда Іванаўна працуе з чацвёртым класам. Клас перапоўнены — 28 вучняў. З кожным з іх яна знаходзіць агульную мову.

— Дзеці па-сапраўднаму любяць сваю настаўніцу, — гаворыць намеснік дырэктара школы па вучэбна-выхаваўчай рабоце Любоў Мікалаеўна Валуева. — Увесь свой вопыт, свае веды яна аддае сваім выхаванцам. Яе ўрокі выклікаюць цікавасць, насычаны матэрыялам. Дзеці займаюцца ахвотна. У Зінаіды Іванаўны многа ўзнагарод. Яна выдатнік народнай асветы СССР. Мае вышэйшую катэгорыю. А былыя вучні часта пішуць і прыязджаюць да Зінаіды Іванаўны...

А яшчэ, як адзначала Любоў Мікалаеўна, З. І. Акуліч — самая актыўная ўдзельніца рознай грамадскай работы. Ужо многа гадоў яна спявае ў жаночым ансамблі. Яе ў школе так ласкава і называюць — "Ластаўка" (па яе дзявочым прозвішчы).

Тут, у Целяханах, Зінаіда Іванаўна стварыла сваю сям'ю. Выйшла замуж. Яе муж, Міхаіл Аляксеевіч, — музыкант, вядзе ў школе музыку і спевы.

У Акулічаў двое дарослых дачок, ужо двое ўнукаў. Гэтая настаўніцкая сям'я знайшла свой пастаянны прытулак на Палессі, у Целяханах. Гэта ўжо іх родны кут. Свой. І назаўсёды.

**Святаслаў КАЖАДУБ.**
**Фота аўтара.**
**г. п. Целяханы.**


За рабочым сталом Зінаіда Іванаўна Акуліч.


Ідзе урок.

# Чарнобыль адгукаецца боллю
## на забруджанай тэрыторыі ў Драгічынскім раёне

Невыпадкова раённы выканаўчы камітэт абмеркаваў стан работы па вырашэнні сацыяльна-значных праблем насельніцтва, што пражывае на тэрыторыях, забруджаных радыёнуклідамі.

Нягледзячы на эканамічныя цяжкасці, як адзначалася, усё ж пэўная работа праводзіцца.

Напрыклад, у калгасах "Дружба" і "Чырвоны партызан" летась перазалужылі 180 гектараў сельгасугоддзяў. На забруджаных участках сельскагаспадарчых земляў дадаткова ўносіліся фосфарныя і калійныя ўгнаенні ў колькасці 430 тон дзеючага рэчыва.

На працягу шэрагу гадоў (так даказваюць вучоныя мужы!) тут не рэгіструюцца забруджанне кармоў, раслінаводчай і жывёлагадоўчай прадукцыі вышэй рэспубліканскага дапушчальнага ўзроўню.

Тады ўзнікае пытанне: чаму ж гэтая зона ў раёне лічыцца забруджанай, калі ўся прадукцыя такой жа чысціні, як на тэрыторыі астатняй Беларусі? Каму тут верыць, невядома.

Але, як я зразумеў, тэрыторыя ўсё ж забруджаная. Летась 6852 чалавекі з гэтай тэрыторыі прайшлі медагляд — сцвярджаюць, што ахоп склаў сто працэнтаў. Амаль палова з іх — хворыя. 2712 чалавек лячылі амбулаторна і 673 — стацыянарна. Вырасла колькасць ракавых захворванняў. І тут ніяк не вяжацца, што прадукцыя жывёлагадоўлі і раслінаводства чыстая. Хто тут каго падманвае?

А факты падману ёсць. У школьных установах, як паказалі праверкі, крадуць прадукты, таму каларыйнасць абедаў паніжаная, парушаецца тэхналогія прыгатавання страў. Гэта адбіваецца на здароўі дзяцей.

У мінулым годзе аздароўлена толькі 49 працэнтаў тых, хто мае ў гэтым патрэбу. Вядома, што ад такога аздараўлення карысць невялікая.

Ліквідацыя наступстваў чарнобыльскай бяды павінна быць комплекснай праграмай, прадуманай і пастаянна фінансаванай. Аднак пакуль што на ўсё грошай не хапае.

Не выканананы на 35 працэнтаў планавыя паказчыкі па ўнясенні мінеральных угнаенняў на забруджаныя сельгасугоддзі калгасамі "Дружба" і "Чырвоны партызан". Кіраўніцтвам калгаса "Чырвоны партызан" і выканкамам Радастаўскага сельсавета не заменены неякасныя кармы ў прыватным сектары вёсак Гаравіца і Залессе. Не працуюць лазні ў вёсках Брашэвічы, Радаства, Сварынь, Маркавічы. У дзевяці населеных пунктах зоны наогул няма водаправодаў. А гэта адмоўна адбіваецца на водазабеспячэнні насельніцтва.

Не выконваюцца планы тэлефанізацыі населеных пунктаў у забруджаных зонах, лясніцтвы раёна не даследуюць на ўтрыманне радыёнуклідаў грыбы і ягады ва ўсіх кварталах лясных масіваў.

Дарэчы, ёсць дзяржаўная праграма па пераадоленні вынікаў катастрофы на ЧАЭС на 2001 — 2005 гады і на перыяд да 2010 года. Гэтую праграму трэба выконваць, калі мы хочам неяк выжыць і захаваць насельніцтва. Бо страшна думаць сёння, што ў два разы паміpae людзей больш, чым нараджаецца.

Што далей? Пытанне застаецца адкрытым, як і застаецца чарнобыльскі боль.

**Антон ХВЕДАРОВІЧ.**
**г. Драгічын.**

# Щука нерестует,
## а браконьер лютует

**Несмотря на то, что с 1 марта объявлен запрет на отлов щуки, а с 25 марта ожидается общий запрет на отлов рыбы, любителей незаконной рыбной ловли не уменьшается.**

12 марта на водохранилище "Селец" задержан гражданин Х. — житель г.Бреста. У него в рюкзаке обнаружены мокрая сеть и щука. Ущерб составил 8667 рублей. Тогда же, там же задержан ещё один браконьер, житель г. Берёзы. У него тоже обнаружена сеть и щука. Ущерб, нанесённый им, — 9334 рубля.

11 марта возле д. Спорово задержан гражданин Б. — житель этой деревни. В его автомобиле обнаружено ружьё и щука на сумму 17334 рубля. Вместе с ним был задержан его односельчанин Щ., у которого изъята рыба на сумму 9334 рубля.

Любителям лёгкой наживы следует помнить, что штраф за одну щучью голову составляет 0,4 минимальной зарплаты, а в период запрета рыбной ловли, т.е. сейчас, — эта сумма возрастает вдвое.

**Николай СИНКЕВИЧ.**
**г. Берёза.**

# "К нашему берегу то..., то треска"

— так с горькой иронией говорят труженики села Кобринского района. Потому что к задолженности декабрьской зарплаты в колхозах района уже присоединились некоторые февральские задолженности в бюджетных организациях и... задержки пенсий пенсионерам.

Недавно на почтовом отделении Глинянка произошёл беспрецедентный случай. Пенсионерка почти с кулаками набросилась на начальница почты по причине того, что ей в назначенное число не выдали пенсию. Произошёл скандал на уровне местного участкового.

Остальные пока терпят. Хотя животноводы к-за "Глинянский" объявили о предупредительной забастовке. Им не выдали зарплату ещё за декабрь прошлого года.

Кстати, работники местного райисполкома свои оклады получают исправно. А обещание главы правительства республики Геннадия Новицкого выдавать "зарплату работникам исполкомов после зарплаты последнего колхозника" давно уже забыто...

**Нина МАРЧУК.**
**г. Кобрин.**

# Страсці вакол рынку

**У панядзелак, 18 сакавіка, у "Газету для вас" звярнуліся два індывідуальныя прадпрымальнікі з г. Івацэвічы, якія, па іх словах, заўжды гандлююць у в. Быцень. Сутнасць іх звароту ў наступных словах:**

— Да нядаўняга часу мы гандлявалі каля Быценскага Дома гандлю. Быценцы прывыклі, што за таварам трэба ісці менавіта туды. Але пару тыдняў назад нас "перагналі" на пустуючы недабудаваны рынак, які амаль не выкарыстоўваўся ніколі. Але ніхто не падумаў над тым, каб прывесці ў нармальны выгляд гэты рынак. Тут зараз свішча вецер; паколькі тэрыторыя не заасфальтавана, пясок, бывае, ляціць цэлымі хмарамі. Антысанітарыя відавочная. Цікава, як ацэньвае такія умовы санстанцыя?

Вось якія адказы далі прадпрымальнікам некаторыя службовыя асобы.

**Аляксандр Аляксеевіч КОВЫШ, галоўны санітарны ўрач Івацэвіцкага РЦГіЭ:**

— Згодна з патрабаваннямі і нормамі, рынкі, дзе ідзе гандаль, сапраўды павінны мець цвёрдае пакрыццё і прыбіральню. Наша задача — кантраляваць гэты момант. Што існуюць такія праблемы ў в. Быцень, як і ў падобных населеных пунктах (г. Косава, г. п. Целяханы), мы ведаем і звяртаем увагу кіраўніцтва на неабходнасць прывядзення рынку ў належны стан. У дадзеным выпадку павінна "подсуетиться" кіраўніцтва Быценскага сельскага спажывецкага таварыства і стварыць на вышэйўзгаданым рынку нармальныя ўмовы.

**Ніна Міхайлаўна ФІРАНЧУК, старшыня Быценскага сельскага спажывецкага таварыства:**

— Мы далікатна ставімся да прадпрымальнікаў, а ўвагу звернем на тое, што ёсць два рашэнні Быценскага выканкама, згодна з якімі прадпрымальнікі ўжо даўно павінны гандляваць там, дзе яны цяпер гандлююць. А штуршком для пачатку больш рашучых дзеянняў паслужыла пісьмо прыхаджан Быценскай праваслаўнай царквы, перад уваходам якой ішоў звычайна гандаль. Уявіце, што ў царкве ідзе служба, заносяць ці выносяць пакойніка, а тут гандаль ва ўсю ідзе.

...Будзем рынак рамантаваць, фарбаваць, свае гандлёвыя кропкі там уставіць. лёўваць, рэкламу рабіць. Заўтра, да прыкладу, паедзем у Баранавічы, адтуль прывязём запламбіраваныя, стандартныя (як у магазіне) шалі, якія будзем выдаваць для карыстання (за 450 рублёў у дзень); чашачныя шалямі, на якіх узважваюць зараз, карыстацца забаронена...

**Аляксандр ГОРБАЧ.**
**Івацэвіцкі раён.**

# Пажар на аўтастрадзе
## у цэнтры г. Івацэвічы


Аляксандр ГОРБАЧ.

У чацвер, 14 сакавіка, у Івацэвічах па вул. Леніна, якраз насупраць акна рэдакцыі нашай з вамі, паважаных чытачоў, газеты, успыхнуў аўтамабіль УАЗ-452, які належыць прадпрыемству па ўтрыманню аб'ектаў добраўпарадкавання.

Пакуль разгублены шафёр (ён сцвярджаў, што падчас руху на ім успыхнула куртка) раскідваў па праезнай частцы сядзенні, рэчы, а вакол збіраўся натоўп разявак, мы з рэдакцыі патэлефанавалі ў ПАВА.

Тое, з якой хуткасцю прымчаўся нарад выратавальнікаў не тое, што ўзрадавала, — проста здзівіла. Дзякуючы рашучай і аператыўнай іх дзейнасці, агач узгарання быў імгненна лакалізаваны, патушаны, а машыну адбуксіравалі ў гараж прадпрыемства.

**Аляксандр ГОРБАЧ.**
**г. Івацэвічы.**

# 25 САКАВІКА — ДЗЕНЬ ВОЛІ

## Зварот да грамадзян Беларусі

Шаноўныя суайчыннікі!

25 сакавіка мы будзем святкаваць 84-я ўгодкі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

Гэтая падзея адкрыла нашай краіне шлях у сям'ю вольных і самастойных дзяржаў свету, дала беларусам магчымасць самім будаваць сваё жыццё, грунтуючыся на прынцыпах дэмакратыі і нацыянальнай незалежнасці.

У пачатку XX стагоддзя будаўніцтва незалежнай беларускай дзяржавы было гвалтоўна перапынена прымусовым далучэннем да СССР, дзяржавы з таталітарным ладам. Пачаўся сумны эксперымент кіравання краінай на падставе утапічных догмаў.

Аднак эканоміка развіваецца паводле ўласцівых ёй законаў. Адной з абавязковых умоваў развіцця эканомікі і паляпшэння дабрабыту людзей ёсць незалежнае дэмакратычнае грамадства. Гэтыя ісціны, як і відавочная неэфектыўнасць каманднa-прымусовай сістэмы, былі ўрэшце зразуметы кіраўніцтвам Савецкага Саюза, што прывяло да бясслаўнага распаду камуністычнай імперыі.

Менавіта акт 25 сакавіка 1918 года аб абвяшчэнні незалежнай Беларусі стаў узорам пры абвяшчэнні незалежнасці Беларусі ў 1991 годзе, нацыянальныя сімвалы Беларускай Народнай Рэспублікі — герб Пагоня і бела -чырвона-белы сцяг — былі зацверджаныя дзяржаўнымі сімвалами нашай Рэспублікі Беларусь.

Але для пабудовы дэмакратычнага грамадства недастаткова перайсці на дэмакратычныя механізмы кіравання — трэба навучыцца правільна карыстацца гэтымі механізмамі. У іншым выпадку з'яўляецца небяспека прыходу да ўлады папуліцкіх сілаў, якія, маніпулюючы грамадскай свядомасцю, выкарыстоўваюць гэтую ўладу ў асабістых амбітных і карыслівых мэтах. Менавіта ў такой сітуацыі знаходзіцца цяпер наша грамадства.

За апошнія восем год пасля рэстаўрацыі ў краіне недэмакратычнага рэжыму Беларусь апынулася ў ізаляцыі ад крыніц інвестыцый і сучасных тэхналогій, што пазбаўляе эканоміку краіны ўсялякай перспектывы. Бясьпынныя інфляцыя і рост цэнаў вядуць да абнішчання большасці насельніцтва, агульная колькасць якога ў краіне няўхільна змяншаецца.

Знішчэнню падвяргаецца і духоўны патэнцыял нацыі. Ідзе планамерны наступ на беларускую мову і культуру. Давяршаецца разбурэнне падмурка сістэмы нацыянальнай адукацыі. Знішчаюцца нацыянальныя сродкі масавай інфармацыі, сістэма беларускага кнігадрукавання. Нішчыцца матэрыяльная база культуры і адукацыі.

Прадметам гандлю робіцца самае дарагое і каштоўнае — дзяржаўнасць і незалежнасць краіны.

Аднак незалежнасць Беларусі з'яўляецца набыткам не толькі сённяшняга пакалення, але нашых продкаў і належыць нашчадкам. Суверэнітэт краіны не можа быць абмежаваны або скасаваны праз рашэнні дзяржаўных асоб і органаў, нават праз рэферэндум. Гэта было абвешчана на Усебеларускім з'ездзе за незалежнасць 29 ліпеня 2000 г., які прыняў Акт незалежнасці Беларусі.

Шляхам Беларусі павінен быць шлях, якім ідуць дзесяткі краін Еўропы і свету, што дасягнулі высокага ўзроўню развіцця і дабрабыту насельніцтва. Гэта шлях дэмакратычных пераўтварэнняў, максімальна адаптаваных да ўмоваў Беларусі, арганічна злучаных з яе нацыянальнымі інтарэсамі.

Ніхто не пабудуе ў нашай краіне нармальныя, годныя ўмовы жыцця лепш за нас саміх.

Перад беларускай нацыяй, усімі грамадзянамі Беларусі сёння стаяць наступныя лёсавызначальныя мэты:

- захаванне і ўмацаванне беларускай дзяржаўнасці, суверэнітэту і незалежнасці Рэспублікі Беларусь;
- усталяванне дэмакратычнага дзяржаўнага ладу;
- забеспячэнне нацыянальных інтарэсаў: устойлівае развіццё паводле крытэрыяў высокіх сацыяльных стандартаў, умацаванне палітычнай незалежнасці дзяржавы, абарону яе тэрытарыяльнай, матэрыяльнай, палітычнай і культурнай цэласнасці;
- развіццё эфектыўнага міжнароднага супрацоўніцтва з краінамі і народамі свету на карысць духоўнага і матэрыяльнага ўзаемаўзбагачэння;
- забеспячэнне палітычных і сацыяльных правоў чалавека;
- фізічнае аздараўленне насельніцтва, ліквідацыя наступстваў Чарнобыльскай катастрофы, стварэнне прыймальнага экалагічнага асяроддзя;
- ліквідацыя небяспекі для фізічнага і духоўнага існавання беларускай нацыі;
- прадухіленне пагрозы палітычнага і сацыяльнага расколу беларускага грамадства, спрыянне яднанню беларускага народа дзеля супольнай стваральнай працы па адбудове нашага агульнага еўрапейскага дому.

Віншуем усіх грамадзян Беларусі са святам беларускага народа — Днём Волі і заклікаем усіх прыйсці 24 сакавіка а 12 гадзіне ў сквер Янкі Купалы і ўскласці кветкі да помніка Беларускага песняра. Даведкі па тэл.: 284-50-12.

Жыве Беларусь!

**Нацыянальны арганізацыйны камітэт па святкаванні Дня Волі.**

# "Скорая помощь" приедет за деньги?



**На прошлой неделе состоялось расширенное совещание Министерства здравоохранения, на котором обсуждалось, как реализовать Закон "О государственных социальных минимальных стандартах", охраняя здоровье граждан Беларуси. Иными словами, определяли минимум бесплатных медицинских услуг для населения.**

Как известно, летом прошлого года специальным постановлением Совета министров был утверждён перечень платных медицинских услуг. Сегодня, например, нам приходится платить за электрокардиограмму или УЗИ сердца, за общий анализ крови или медсправку для посещения бассейна. Но, судя по всему, в ближайшее время перечень платных услуг будет расширен. У государства не хватает денег на то, чтобы лечить нас бесплатно.

В этом году бюджет системы здравоохранения составит всего лишь 4,6% от внутреннего валового продукта , хотя, для того чтобы система работала более-менее стабильно, необходимо не менее 7 процентов. Для сравнения, правительство Германии ежегодно перечисляет на нужды медицины своей страны около 13% от ВВП.

Но в Беларуси Конституцией гарантировано право на бесплатное медицинское обслуживание. Это значит, что нельзя потребовать с пациента деньги за то, что он идёт на приём к терапевту или нуждается в срочной операции. Поэтому-то и был "изобретён" Закон "О государственных социальных минимальных стандартах", на основании которого будет определён минимальный перечень бесплатных медицинских услуг. За всё, что не войдёт в этот список, пациентам придётся платить. Хорошая мина при плохой игре будет соблюдена: на уровне государственного документа словосочетание "бесплатная медицина" прозвучит.

Заседание чиновников от медицины длилось долго. При обсуждении "мер по исполнению" исторического закона об ограничении бесплатных услуг выяснилось, что трудности весьма велики. Медики понимают, что белорусы не готовы платить за лечение: многим семьям не хватает средств на питание, не то что на лекарства. Но, с другой стороны, распоряжения сверху надо выполнять...

Не исключено, что бесплатным останется только 12 посещений в год к участковому терапевту. Даже за вызов "скорой помощи" мы будем платить: предлагается, что с одного телефона можно будет сделать в год лишь три бесплатных звонка по "03". Обретут цену все медицинские справки. Придётся забыть о бесплатных больничных обедах. Даже лекарства в клиниках будут выдавать за деньги: бесплатно лечащий доктор сможет прописать лишь препараты из категории "жизненно важных" и недорогих. Обсуждается вопрос и о платных операциях. Безусловно, экстренные и плановые операции останутся бесплатными. Но если пациент захочет, чтобы его прооперировали вне очереди, и при этом использовались импортные препараты и расходные материалы, ему придётся заплатить.

Минздрав выступает за то, чтобы уже имеющийся перечень платных услуг оставить в прежнем виде. В крайнем случае, внести туда небольшие поправки. Но последнюю точку в этом важном решении поставит правительство.

Каков прогноз специалистов? Государство скорее всего увеличит список платных медицинских услуг. Часть денег действительно пойдёт на нужды медицины, а часть осядет в государственном бюджете. Медики получат мизерные прибавки к своим зарплатам, а потому вряд ли будут заинтересованы работать лучше. Так что, заплатив за лечение, пациент вряд ли сможет рассчитывать на лучшее качество обслуживания и что самое главное — на внимание.

**"Народная воля".**

# Растут задолженности по зарплате

По последним данным, задолженность по зарплате в Брестской области составляет 8678,5 миллиона рублей. На 31 января эта цифра была гораздо меньшей — 5148,4 миллиона. Сегодня задолженность в процентах к фонду заработной платы составляет 15,72%. В некоторых районах ситуация гораздо хуже, чем в среднем по области.

**"Хартия-97".**

# Ці баіцеся вы, што Беларусь можа страціць дзяржаўную незалежнасць?

## Адказваюць жыхары г. Івацэвічы



**НАТАЛЛЯ ЛЯВОНЦЬЕЎНА:** Хацелася б, каб Беларусь была незалежнай дзяржавай, цвёрда стаяла на нагах, ні ад каго не залежыла. Частка Расіі? Ні ў якім разе!



**ЖАННА АРКАДЗЬЕЎНА:** Я б хацела, каб Беларусь злучылася з Расіяй. Мая сястра жыве ў Расіі; ёй можна пазайздросціць. А ў нас вунь яшчэ і пенсіі затрымліваюць.



**МІКАЛАЙ:** Беларусь павінна быць незалежнай, але ў эканамічным саюзе з Расіяй. Без старэйшага брата мы не пражывем. Мы гістарычна цесна звязаны, нібы адно цэлае...



**УЛАДЗІМІР:** Мне без розніцы. Я ведаю, што аб дабрабыце маёй сям'і ніхто, акрамя мяне, хвалявацца не будзе. Палітыкі іграюць на нашых пачуццях — і толькі.



**ІЛЛЯ:** Не баюся. Беларусь ужо дванаццаць гадоў як незалежная. Нас ведаюць, прызнаюць, мы — суб'ект міжнароднага права. У нас усё спакойна. Чаго хвалявацца?



**ТАМАРА ВАСІЛЬЕЎНА:** Беларусь павінна супрацоўнічаць і з Захадам, і з Усходам. Незалежнасць? Канешне! І раўняцца на лепшых. Палякі вунь за 10 гадоў многага дабіліся...

*У народ хадзілі Аляксандр ГОРБАЧ, Юлія ЦЕЛЬПУК (фота).*






# ВОЛЬНЫ РЭГІЁН



# СТАНЦЕВАТЬ НА ГОЛОВЕ!? ЗАПРОСТО!

***Брейкер Максим Борей из г. Берёза научит вас этому всего за 5 занятий***

**В 1984-86 годах на территории одной шестой части суши — в бывшем СССР — в молодёжной среде появился крайне популярный танец, сочетавший роботоподобные движения с акробатическими трюками. На дискотеках он, правда, не поощрялся, если не сказать запрещался. Как и во всём остальном, проникавшем "оттуда", в нём виделось лишь "тлетворное влияние Запада". Сейчас брейк-дэнс, а именно так называется этот танец, снова на пике популярности. В малых и больших городах появились брейкерские команды. На этот раз заглянем к берёзовским брейкерам.**

Максим Борей "заразился" брейком около 3-х лет назад в лагере в г. Сочи, увидев там выступления местных брейкеров. "Ломаный" танец так запал в душу, что по возвращении в Берёзу Максим с местными рэперами стали собираться и тренироваться на улицах. Потом перед ребятами открыли свои двери ДЮСЭЦ (Красные Казармы) и Молодёжный Центр. С тех пор берёзовские брейкеры уже неоднократно выступали и у себя дома, и выезжали на различные соревнования в Барановичи, Брест, другие города. Сегодня Максим — инструктор брейк-дэнса. Он проводит свои занятия в Берёзовском РДК. Во время одной из тренировок мы и встретились с Максимом и его другом Сашей.

**Максим:**

— Сейчас мы занимаемся три дня в неделю в две смены. Всего у меня две группы, по 20 человек каждая. С удовольствием танцуют и ребята, и девчата. Средний возраст наших брейкеров — 16-18 лет, но брейк-дэнс заметно молодеет.

**— Что даёт занятие брейком?**

— Физическую подготовку, развивает координацию движений, пластику. Ведь кроме элементов танца у нас ещё есть растяжки, бег, занятия на турниках. Что касается меня, то я живу брейком.

**— И как долго продлится твоё увлечение?**

— Думаю, на всю жизнь. Это — как наркотик. Не знаю, как от него отказаться. Пытался — не получилось.

**— Что нужно для того, чтобы заниматься брейком и насколько сложно его освоить?**

— Надо желание, а при желании — совсем не сложно.

**— Как долго нужно учиться крутиться на голове?**

**Максим:**

— Я сам научился за две недели, а ребята у меня осваивают это за пять занятий.

**Саша:**

— Ничего сложного в брейк-дэнсе нет. Надо лишь немного гибкости, всё остальное — дело техники. И ещё одно условие — забыть, что такое страх.

**— А крутиться на голове не больно?**

**Максим:**

— Нет. Тренируемся мы в шлемах. На батлах (battle — чемпионат брейкеров) — уже приходится без шлема.

**— Как рождается танец?**

— Тут у брейкера должна присутствовать фантазия. Увидишь какое-то одно движение — и сам переделаешь в другое.

**— Много ребят от вас уходит?**

— Пока ещё никто не ушёл.

**— Планы?**

— Раньше наша команда называлась NJ-Crew, но сейчас мы объединились с пружанскими брейкерами. И с нашей новой командой (пока ещё без названия) хочется "продвинуться" — поездить по чемпионатам, по другим городам, себя показать, других посмотреть.

**— Как посторонние люди относятся к вам?**

— Если раньше говорили: "Дурные какие-то — что на голове вытворяют!", то сейчас просто смотрят и удивляются.

**Саша о себе:**

— Раньше я больше занимался пластикой. Потом, как-то увидев клип группы "W-Crew", загорелся мечтой серьёзно научиться брейк-дэнсу. Тренируюсь с Максимом уже более трёх лет. Мечтаю выступать с нашей командой на чемпионатах, джемах.

**— Что-то хочешь сказать нашим читателям?**

— Ребята, не сидите в подвалах! Лучше приходите к нам на тренировки!

**Остаётся добавить, что сейчас в Берёзе серьёзных брейкеров человек 30, а это значит — уже можно устраивать свои зрелищные батлы и джемы. Но для этого нужен спонсор, который, естественно, получит хорошую рекламу. Контактные телефоны Максима: 4-41-14 (раб.), 4-51-49 (дом.).**

Разновидность headspine'а — "Гвоздь".

Саша Скобленко "завис" в полубэке.

## Ещё пару слов о брейк-дэнсе

Родился брейк в Америке. Всё началось с пластинки легендарного Джеймса Брауна "Get On The Good Foot" (1972), ритмы которой породили танец good foot — "ломаные" движения в такт ломаным битам пластинки. В Бронксе гуд фут переродился в уличный брейк-дэнс (ломаный танец). Брейкеры собирались в команды и состязались улица на улицу, двор на двор, кто кого перетанцует. Со временем, благодаря целой индустрии шоу-бизнеса, чемпионатам, джемам (jam), телероликам и видеоклипам, популярность танца выросла до того, что появились межгородские, национальные и даже мировые чемпионаты. Самый большой чемпионат среди брейкеров называется "Battle of the year" (битва года) и проходит в Германии. Он имеет статус международного, и туда съезжаются лучшие би-бои Европы. Самыми зрелищными на чемпионатах — и с этим не поспоришь — являются финальные батлы.

Достаточно часто мы видим элементы брейка в клипах модных западных исполнителей.

В брейк-дэнсе существует несколько стилей — верхние ("Electric boogie" и "Pop locking") и нижние ("foot work" и "power mowes"). Стиль "Electric boogie" появился в середине 70-х годов, его основателем является брейкер Mr.Wiggles (команда Rock Steady Crew). Это он был учителем и постановщиком известных шоу Майкла Джексона (его знаменитой лунной дорожки и волны) и его сестры Дженет.

## Стиль, или Как одеваться брейкерам

Обувь должна быть просто удобной, и с цепкой подошвой (желательно резиновой, а не из полимеров). Самая удобная обувь — это кроссовки для игры в большой теннис вне зала. Такие тапки очень удобны и держат бешеные нагрузки. Следующую позицию занимают беговые кроссовки, т.к. тоже очень удобны, но держат меньшие боковые нагрузки.

**Одежда.** Она должна быть не менее удобной, чем обувь. Тем, у кого мяса маловато, желательно одеть одежду помягче. Делая new-style brake, одевайте короткую толстовку с рукавами, т.к. она скользит по оргалиту гораздо лучше, чем ваша кожа. Штаны должны быть не слишком узкими — чтобы не сковывать ваши движения, и не слишком широкими — чтобы в них не запутаться. Самая подходящая ткань, из которой должна быть сделана одежда — это 100% polyster на хлопковой (cotton) основе. Полистер очень хорошо скользит по любому покрытию, не растягивается и достаточно прочен. На сцене, где нужны максимально модные вещи, используйте штаны с лампасами, толстые водолазки. Желательно, чтобы вещи сочетались друг с другом, стиль должен присутствовать везде. И ещё одно — не одевайте шорты, т.к. би-бой в шортах, каким бы он ни был мастером, выглядит некрасиво. Не носите вещи, которые продаются на каждом рынке и в которых ходит пол-города, имейте свой собственный и неповторимый стиль.

**Аммуниция.** Сюда входят шапочки, напульсники и наколенники.

Шапочка нужна для того, чтобы делая headspin (вращение на башне), не протереть на макушке лысину, и чтобы смягчать редкие удары об пол при выполнении других "фишек". Подойдёт обычная машинно-вязаная шапочка с пенополиуретановой подкладкой толщиной 5-7мм. Подкладка из полиматериала смягчает давление на макушку.

Эластичные **напульсники** нужны (не всем) для фиксации кистевого сустава и предотвращения травм.

**Наколенники** хоть и сковывают поначалу, но к ним быстро привыкаешь. Их лучше использовать на тренировках, а на остальных мероприятиях это делать как-то не солидно. И если уж вы без них не можете, то прячте их под штаны.

Повседневную одежду обычно выбирают по вкусу — штаны пошире, просторные кофточки, кеды или кроссовки и, конечно же, шапку.

Один из "фризов" Максима.

### Краткий словарь слэнга брейкеров

**Top rock** или **up rock** — перемещение с ноги на ногу, перед тем как зайти на нижний элемент;

**Electric boogie** — пластичные движения руками, ногами и вообще всем телом: различные петли, волны и т.п., плюс множество движений в стиле "робот";

**Glide** — различные варианты лунных походок, дорожек;

**Step** — движения ногами, шаги;

**King tuts** — различные движения руками;

**Pop locking** — типа "попсовых" танцев на ногах, с резкими фиксациями рук и отдельных частей тела;

**Headspine** — вращение на голове;

**Footwork** — разные движения ногами, переплетение и расплетение;

**Freeze** — фиксация положения тела при выполнении определенного элемента

**Helic** — кручение с переходом (рука-плечо-спина-плечо-рука), возможны варианты;

**Crack** — кручение на руке с подпрыгиванием.

Полосу подготовил Николай СИНКЕВИЧ, фото автора.

